ГРОДНА
№5 (557),
7 сакавіка 2021

СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Жонка, маці, манахіня




*Св. Францішка Рымская – адна з нешматлікіх жанчын, якім удалося сумясціць тры пакліканні.*

на старонцы 2

## Пабыць сам-насам з Богам




*Малітва з'яўляецца той таямнічай сілай, вакол якой выстройваецца ўсё ў нашым жыцці.*

на старонцы 5

## Экакультура гарадскога асяроддзя




*Клопат пра наваколле – гэта справа не толькі ЖКГ, але і кожнага з нас.*

на старонцы 6

# РАЗДАЎШЫ СЯБЕ БЕЗ АСТАТКУ




*Св. Імша ў гродзенскай катэдры ў інтэнцыі спачылага а. Казіміра Жыліса*

**А. Казіміра Жыліса SJ называюць святаром-легендай. І сапраўды, жыццё езуіта было напоўнена такой колькасцю незвычайных гісторый, што падаецца, нібы знаёмішся з жыццяпісам святога з сярэднявечча, дзе быль часам перасякалася з выдумкай. Аднак, на шчасце, мы маем шмат сведкаў яго зямной вандроўкі, якія дзеляцца сваімі ўспамінамі.**

на старонцы 3

# ПЕРАРЫВАЮЧЫ МАЎЧАННЕ

**Неаднойчы мы чулі пра аб'яўленні Найсвяцейшай Панны Марыі, якая з'яўлялася людзям у розных кутках свету – ад Мексікі да Японіі, – амаль кожны раз пакідаючы вернікам заўсёды актуальнае пасланне. Разам з тым, гісторыя Касцёла ведае выпадкі аб'яўленняў самай маўклівай постаці Евангелля – св. Юзафа, які таксама пакінуў тым, хто яго бачыў, такое чаканае слова.**



на старонцы 4

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Час Вялікага посту звязаны з рознымі пастановамі. Хтосьці можа на 40 дзён адмовіцца ад піцця кавы ці спажывання салодкага. Некаторыя бяруцца за дадатковую малітву, удзел у штодзённай Эўхарыстыі або здзяйсняюць дадаткова адну добрую справу. Ёсць асобы, якія могуць выключыць прагляд тэлевізара і любімых серыялаў. Знойдуцца і тыя, хто здольны цалкам адмовіцца ад інтэрнэту, у якім мноства непатрэбнай інфармацыі.*

*Такім чынам, можна сказаць, што ў час Вялікага посту мы шукаем цішыню, каб хоць на імгненне акунуцца ў разважанні пра муку і смерць Езуса. Асабіста мне вельмі падабаюцца пятніцы ў гэты святы час, калі разам са сваімі дарагімі парафіянамі маю магчымасць узірацца ў велічныя стацыі Крыжовага шляху ў адамавіцкім касцёле і ўдзельнічаць у муках нашага Пана Езуса Хрыста.*

*Падчас велікапоснага роздуму, магчыма, варта ўспомніць словы вялікага сузіральніка Томаса Мертана, які пісаў у "Знаку Ёны": "Хрысціяне павінны мець ціхія дамы. Выкіньце тэлевізар, калі вам так неабходна; не кожны, а тыя, хто ставіцца да гэтых рэчаў сур'ёзна. [...] Няхай усе, хто здольны вытрымаць трохі цішыні, знойдуць тых, хто любіць цішыню, і няхай ствараюць цішыню і спакой адзін для аднаго. Выхоўвайце дзяцей, каб яны так не крычалі".*

*З гэтым "выкідваннем тэлевізара", канешне, асцярожна, але лепш не глядзець "пустыя" праграмы. Варта – і нават трэба – пакінуць безнадзейныя сайты, якія не прыносяць нічога добрага ў наша жыццё. Нам усім патрэбна сапраўдная цішыня, каб лепш пачуць Божы голас. У рэшце рэшт, Творца прамаўляе ў цішыні.*

*Давайце прымаць такія пастановы, выкананне якіх паспрыяе таму, што "новымі людзьмі" мы ўвойдзем у перыяд Велікодных свят.*

*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**7 сакавіка**

***III Нядзеля Вялікага посту.***

*Літургія III Нядзелі Вялікага посту заахвочвае нас навесці такі парадак, які ўчыніў Пан Езус у святыні, калі, зрабіўшы бізун з вяровак, павыганяў усіх, хтоператварыў яе ў дом гандлю. Яна заахвочвае нас нанова адкрыць прыгажосць Божага закону, прыгажосць сямейнай сустрэчы за сталом і прыгажосць ахвяры, якую неабходна складваць, бо на гэтай зямлі ахвяра непазбежная.*

**13 сакавіка**

***8-ая гадавіна выбару Святога Айца Францішка на Пасад св. Пятра.***

*13 сакавіка 2013 года 76-гадовы кардынал Хорхе Марыё Берголіа SJ з Аргенціны быў абраны Папам. Гэта 266-ты біскуп Рыма, першы Папа з Амерыкі. Ён першы прыняў імя Францішак і з'яўляецца першым Папам Рымскім з паўднёваамерыканскага кантынента, а таксама першым з-па-за межаў Еўропы з часоў папы Рыгора III (пантыфікат 731–741 гады). Ён таксама з'яўляецца першым езуітам, абраным Папам, і першым манахам пасля папы Рыгора XVI.*

**14 сакавіка**

***IV Нядзеля Вялікага посту.***

*Літургія IV Нядзелі Вялікага посту, таксама вядомай як Нядзеля радасці, нагадвае, што мы павінны паспрабаваць зірнуць на сябе ў святле Божай праўды і ўбачыць сакраментальны знак Божага прабачэння, каб атрымаць ласку, якую Пан хоча нам удзяляць, таму што Ён ніколі не стамляецца быць шчодрым да нас, што з'яўляецца крыніцай духоўнай радасці.*

**19 сакавіка**

***Урачыстасць св. Юзафа, Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*У Евангеллях не было зафіксавана ніводнага слова, якое было б прамоўлена св. Юзафам, таму ў тэалогіі яго часта называюць чалавекам, які гаварыў учынкамі, і яго праведныя і справядлівыя паводзіны ставяцца ў прыклад. Менавіта св. Юзаф адыграў галоўную ролю ў падзеях, звязаных з дзяцінствам Езуса – яму Бог праз анёла даваў наказы адносна лёсу Дзіцяці (параўн. Мц 1–2).*

# ЖОНКА, МАЦІ, МАНАХІНЯ

*працяг са с. 1*

***Кс. Юрый Марціновіч***

Італьянская арыстакратка Францішка (нарадзілася ў Перыёнэ недалёка ад Рыма), якая жыла на мяжы XIV і XV стагоддзяў, – адзін з нешматлікіх прыкладаў жанчын, якім удалося сумясціць тры пакліканні – жонкі, маці і манахіні. Самаадданасць, з якой яна прысвячала сябе хатнім абавязкам, а таксама любоў да мужа і дзяцей сведчаць аб сапраўднай святасці, зразуметай як яе духоўная і дабрачынная дзейнасць была проста нечалавечай. Св. Францішка не толькі падтрымлівала патрабуючых усімі даходамі, якія выпадалі на яе, але таксама, калі іх не хапала, дадавала з працы ўласных рук. Развозіла дровы ў бедныя дамы і нават збірала грошы на вуліцах горада. У той жа час святая шмат гадзін – часта да позняй ночы – прысвячала малітве.

**У якасці ўзнагароды за бязмежную адданасць Бог надзяліў Францішку бачаннямі і дарам экстазу, прарочым пачуццём, сілай аздараўлення і нават уваскрашэння памерлых.**

вернасць Божай волі ва ўсім, асабліва ў абавязках, што вынікаюць са стану.

Франчэска Буса дэ Леоні была надзвычай рэлігійным дзіцём. Яна добраахвотна прыступала да частай споведзі, бо разумела, што кожны наш грэх быў прычынай таго, што мука Збаўцы сталася ўсё цяжэйшай. Ужо ў шасцігадовым узросце дзяўчынка задавала сабе невялікія ўтаймаванні (напрыклад, устрыманне ад мяса). Ідучы так да дасканаласці, была перакананая, што ёй няма месца сярод свецкіх, а толькі ў нейкім жаночым манастыры.

Але Бог захацеў інакш. Аднойчы бацька дванаццацігадовай дзяўчынкі паведаміў, што яна заручана з вельмі багатым арыстакратам Лаўрэнціем Панцыяні і што гэтае рашэнне не аспрэчваецца. Яна мусіла пагадзіцца. Спачатку рабіла так толькі з паслухмянасці, прызнаючы ў гэтым Божую волю, але з часам высветлілася, што сямейнае жыццё складваецца надзвычай гарманічна. Муж не меў нічога супраць інтэнсіўнага духоўнага жыцця Францішкі і яе аддаленасці ад свецкіх забаў. Яна ж аддзячвала шчырай любоўю і сур'ёзным стаўленнем да сваіх абавязкаў. Францішка ўзяла на сябе нават больш, чым жанчыны яе стану.

Пры ўсіх хатніх справах А калі яе размову з Богам альбо чытанне псальмаў перарывалі, звычайна гаварыла: "Замужняя жанчына павінна, калі яе клічуць сямейныя абавязкі, пакінуць Бога перад алтаром і знайсці Яго ў хатняй мітусні".

Аднак яе бласлаўлёнае жыццё не абышлося без крыжоў і цярпення. Двое з трох дзяцей заўчасна памерлі, да таго ж у выніку вайны караля Неапаля супраць Папы Рымскага муж і сын, якія падтрымалі Наступніка Пана, былі высланы з горада, а іх маёмасць разрабавалі войскі, якія акупіравалі Рым. У адсутнасць мужчын Францішцы davodзілася спраўляцца з усім самастойна, і яна яшчэ больш паглыбіла ўнутранае жыццё. Пасля іх вяртання святая пераканала мужа з гэтага часу жыць у цноце.

Вакол Францішкі пачалі збірацца жанчыны, якія жадалі пераймаць яе стыль жыцця. Святая вырашыла заснаваць для іх манаскую кангрэгацыю, у якую сама не магла ўступіць. Толькі пасля смерці мужа яна рэалізавала сваё жаданне, далучыўшыся да заснаванага ёю ордэна. Так Кангрэгацыя Бенедыктынак-Аблатак з Аліўнай гары была створана ў 1425 годзе і зацверджана папам Марцінам V у 1433 годзе.

Апошнія гады жыцця




Францішка правяла пры касцёле Санта-Марыя-Нуова (цяпер пад яе тытулам), перажываючы мноства містычных станаў, сярод якіх найбольш цікавым быў дар бачання Анёла-ахоўніка. У пэўным сэнсе ён быў адлюстраваннем сумлення святой, бо кожны раз, калі яна здзяйсняла нейкі нязначны грэх, твар апекуна

**Касцёл успамінае св. Францішку Рымскую 9 сакавіка.**

станавіўся сумным, і праясняўся толькі тады, калі выконвала адпаведную пакуту. Знясіленая шматгадовай самаадданасцю, Францішка адышла да Пана 9 сакавіка 1440 года, і яе ўспамін быў усталяваны менавіта ў дзень яе нараджэння для неба. Папа Павел V далучыў манахіню да ліку святых у 1609 годзе.

Жыццё св. Францішкі паказвае нам, што не кожнае набожнае жаданне абавязкова павінна быць воляй Божай. Уся складанасць у тым, каб магчы гэта мудра распазнаць. Дапамагчы можа добрая размова, а Анёлам-ахоўнікам можа аказацца муж, жонка, брат, сястра, сябар ці спаведнік.

Няхай падчас Вялікага посту св. Францішка Рымская дасць нам узор святога жыцця, каб пры любых абставінах мы настойліва служылі Богу, пазнавалі Яго волю і ішлі за Ім.

# РАЗДАЎШЫ СЯБЕ БЕЗ АСТАТКУ



працяг са с. 1

*Ангеліна Марцішэўская*

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч,** *ганаровы Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі:* ***"Правілам яго жыцця было Евангелле: белае ёсць белым, а чорнае – чорным".***

З 1989 па 1991 год а. Казімір Жыліс быў маім сакратаром. Ён прапанаваў вазіць мяне паўсюль, дзе трэба, бо і так шмат ездзіў здымаць сюжэты, а я з радасцю пагадзіўся.

Ён заўсёды быў вельмі ўслужлівы. І прынцыповы падчас складаных пытанняў маральнасці, здаровага ладу жыцця і вяртання касцёльнай маёмасці. Калі неабходна было весці нялёгкія перамовы з уладамі, яго прынцыповая пазіцыя дапамагла вярнуць не адзін касцёл. Памятаю, як на другі дзень свят Божага Нараджэння ў 1990 годзе я прыехаў у Полацк, каб памаліцца з вернікамі, якія не мелі месца сталай малітвы – збіраліся на вуліцы або ў прыватных дамах. Калі я папрасіў улады выдзеліць для святочнага набажэнства памяшканне, то а. Жыліс адразу прапанаваў цэлебраваць св. Імшу ў актавай зале гарвыканкама. Вядома, улады не пагадзіліся. А. Казімір працягваў настойваць і прапанаваў маліцца каля елкі на цэнтральнай плошчы, але гэта таксама ім не адпавядала. У адказ улады выдзелілі пустуючы кінатэатр, дзе і адбылася св. Імша. Пасля гэты кінатэатр быў перабудаваны ў прыгожы касцёл. Увогуле а. Казімір быў зоркай на небасхіле ваяўнічага атэізму савецкіх часоў. Нават у цяжкі перыяд ганенняў на хрысціянства ён верыў, што Божая праўда затрыумфуе. Так і сталася: тыя, хто праследаваў езуіта, пазней дзякавалі яму.

Узгадваю таксама, як перад маім пераводам у Маскву ў 1991 годзе я паслаў а. Казіміра ў Далас (ЗША) у тэлевізійную школу "Lumen 2000", каб падрыхтаваць для Касцёла ў Беларусі кваліфікаванага спецыяліста ў галіне відэамедый. Да той пары ён, здымаючы найважнейшыя набажэнствы, ужо шмат учыніў у справе дакументавання гісторыі адраджэння мясцовага Касцёла. Аднак выклікі часу патрабавалі адпаведна падрыхтаваных спецыялістаў. Наведваючы а. Казіміра ў Амерыцы, я пачуў шмат пахвалы адносна нашага езуіта ад дырэктара тэлешколы. Аднак у той самы час некаторыя звычкі а. Казіміра былі абсалютна незразумелыя для амерыканцаў. Так, напрыклад, вядома, што тамтэйшыя жыхары ўжываюць шмат лёду, кідаючы яго практычна ва ўсе напоі. Таму паўсюль стаяць спецыяльныя машыны, якія прадукуюць лёд. Дык вось, у тэлешколе заўважылі, што іх машына пачала выдаваць замала лёду. Выклікалі майстра. Ён доўга шукаў прычыну паломкі і не змог яе знайсці. Пачуўшы пра гэта, а. Казімір паспяшыў усіх супакоіць, распавёўшы, што машына праца выдатна, а ён проста вёдрамі выносіў з яе лёд, каб палежаць у халоднай ванне... У святара паднялася тэмпература, і ён такім чынам хацеў збіць гарачку. Такі быў а. Жыліс!




Падчас св. Імшы падзякі за 40 гадоў святарства а. Казіміра, 2013 г.

Вядома, ён з'яўляўся сапраўдным "вязнем" канфесіянала. Вернікі ведалі, што ў гродзенскай катэдры заўсёды можна застаць спаведніка, і ім быў а. Казімір Жыліс.

Лічу, што сваім ахвярным служэннем Касцёлу ў Беларусі а. Казімір збудаваў сабе духоўны помнік, малітоўная сцежка да якога не можа зарасці. І ён сам не можа адысці ў забыццё.

**С. Агнешка Лешко,** *кансэкраваная панна, шматгадовая гаспадыня а. Казіміра Жыліса:* ***"Ён проста рабіў сваю справу, змагаўся супраць сатаны".***

Мы доўга чакалі, каб у нас у Індуры з'явіўся ксёндз. Я сама неаднаразова ездзіла да дэкана, каб ён паспрыяў у гэтай справе. І нарэшце нам прызначылі а. Казіміра, які адразу зрабіў уражанне вельмі сціплага чалавека. Памятаю, як пры сустрэчы сказала яму: "Ойчанька, у нас тут ніякіх умоў няма, ні вады, ні ацяплення". А ён у адказ: "Дык мне толькі людзі патрэбны". Быў вельмі сціплы і ў харчаванні. Нічога не хацеў і меў толькі адно да мяне патрабаванне: каб раніцай і ў абед быў малочны суп, а ўвечары – бульба з кіслым малаком. На самой жа справе яму яшчэ і нагадваць пастаянна прыходзілся, каб паеў, бо з-за шматлікіх абавязкаў заўсёды не меў часу.

Адна з яго галоўных заслуг падчас служэння ў Індуры – барацьба за цвярозасць сярод мясцовых жыхароў. Як распавядаў сам а. Казімір, у юнацтве ягоныя сябры напаілі яго гарэлкай, пасля чаго яму стала так блага, што паабяцаў Госпаду: заўсёды буду змагацца з алкаголем! Аднак рабіў гэта незвычайнымі спосабамі. Адмаўляўся служыць пахавальныя св. Імшы, калі даведваўся, што падчас памінак вернікі збіраюцца спажываць алкаголь. На амбоне ў яго заўсёды вісела вяроўка, якой пагражаў адлупцаваць, калі ўбачыць кагосьці п'яным. Зразумела, падобная пазіцыя не ўсім была даспадобы, але прынесла плён: многія перасталі піць і навярнуліся. Разам з тым, а. Казімір і чулась праяўляў, калі бачыў, што чалавека зацягвае алказалежнасць. Развозіў мужчын па хатах, калі знаходзіў іх п'яных, а сустракаючы з пахмеллем, купляў ім прадукты: ці то кефір, ці то хлеб...

Увогуле айцец быў сапраўдным міласэрным самаранінам. Ніколі нічога не патрабаваў ад людзей, толькі аддаваў. Нават калі будаваў ці аднаўляў касцёл, самастойна шукаў або зарабляў грошы на гэтую справу, не просячы ў парафіян.

Усе ведаюць яго смеласць у супрацьстаянні савецкай уладзе, аднак гэтая адвага праяўлялася ва ўсім. Аднойчы ён заўважыў, што атруцілі яго сабаку, і сцяміў, што хтосьці рыхтуецца да злачынства. Пачаў класці пад ложак сякеру. І сапраўды, пэўнай ноччу нехта паспрабаваў улезці ў яго хату. Пачуўшы нехарактэрныя гукі, а. Казімір падышоў да акна і высунуў з яго сякеру... Злачынцы ўбачылі, спужаліся і ўцяклі!

Я пачала сумаваць па айцу, як толькі ён пакінуў Індуру, каб пераехаць у Гродна. Неаднаразова наведвала яго там, вазіла ўлюбёны малочны суп. Некалькі гадоў таму прыязджала да яго ў Варшаву, калі быў на лячэнні. Ачуняўшы пасля комы, а. Казімір прызнаўся, што бачыў Езуса, які сказаў, што яго час яшчэ не наступіў. А цяпер, атрымліваецца, час усё-такі прыйшоў...

**Кс. Анджэй Ганчар,** *былы турэмны душпастыр, пераемнік абавязкаў а. Казіміра:* ***"Ён прымаў кожнага чалавека і быў прыкладам у служэнні".***

Я пазнаёміўся з а. Казімірам, калі праходзіў практыку ў гродзенскай катэдры, дзе ён служыў. Першае, што кінулася ў вочы, – гэта бясконцы пазітыў святара: ён быў здольны радавацца, нават калі яму дакучалі хваробы, і ніколі не скардзіўся на боль. Жартаваў і над уласнай немаччу. Часта казаў: "Я замарожу або засмажу гэты рак!" *(маецца на ўвазе ў палонцы ці ў парылцы. А. Казімір любіў нетрадыцыйную медыцыну – заўв. аўт.).* Да радаснай асобы заўсёды цягнуцца людзі, так і з а. Казімірам хацеў быў побач кожны, хто хоць аднойчы сустрэў яго.

Аднак наколькі моцна здольна любіць сэрца гэтага езуіта, я зразумеў толькі тады, калі пачаў спадарожнічаць а. Казіміру ў служэнні вязням. Прыходзячы ў камеры, ён даваў гэтым людзям надзею на перамены, на любоў. Стараўся знайсці падыход да кожнага, карыстаўся турэмным жарганам, каб размаўляць на адной мове з вязнямі. У турме яго ведалі і шанавалі ўсе: і "першаходы", і "аўтарытэты". У першую чаргу, а. Жыліс клапаціўся, каб кожны са зняволеных быў ахрышчаны, чытаў Біблію і прымаў св. Камунію.

Аднойчы мы даведаліся, што вязень, якога айцец толькі ўчора паспавядаў, уначы спрабаваў здзейсніць самагубства. А. Казімір адразу прыбег у камеру і пачаў нагадваць пра каштоўнасць гэтага чалавека ў вачах Бога. І той зноў прыступіў да споведзі, маючы слёзы пакаяння ў вачах.

Калі айцец з'ехаў у Варшаву, яго падапечныя вязні яшчэ доўга пыталіся ў мяне пра яго і абяцалі малітвы ў інтэнцыі добрага здароўя езуіта. У сваю чаргу а. Казімір марыў, каб святары, якія абслугоўваюць турму, дапамагалі людзям і пасля заканчэння тэрміну іх зняволення. Сам ён неаднаразова і духоўна, і матэрыяльна падтрымліваў тых, хто выйшаў з вязніцы. Ведаю, што дзякуючы намаганням а. Жыліса многія навярнуліся і працягнулі практыкаваць веру на волі.

Адзначу, што а. Казімір вельмі любіў ісці ў заклад. І аднойчы мы закладся, што ён пахудзее на 20 кг. Калі айцец пераможа, я павінен быў купіць яму 20 бутэлек "амерыканскай гарэлкі" – так езуіт называў "Кока-Колу". І ён скінуў гэтую вагу! Але прычынілася хвароба. Я ўзяў яму 5 бутэлек напоя замест 20-ці (бо навошта столькі?!), а ён у адказ паабяцаў, што калі памрэ, будзе прыходзіць да мяне ўначы і казытаць! Ну, цяпер чакаю, калі ён наведае мяне. А падсумоўваючы... гэта быў святы чалавек!

**Генуя Шведко,** *прадстаўніца каталіцкай супольнасці літоўцаў у Гродне:* ***"Нельга было не адчуць яго дабрыню".***

Вядома, што а. Казімір Жыліс нарадзіўся ў Літве, дзе і стаў святаром, аднак, адчуўшы місійнае пакліканне, апынуўся ў Беларусі. Нас, прадстаўнікоў літоўскай супольнасці Гродна, на дадзены момант налічваецца 170 сямей і, зразумела, нам ад самага пачатку хацелася мець адмысловага духоўнага кіраўніка, чуць Божае слова на роднай мове. З хвіліны ўзнікнення супольнасці літоўцаў мы звярнуліся да біскупа Аляксандра Кашкевіча з просьбай праводзіць св. Імшу па-літоўску. Спачатку ён рабіў гэта сам, а пасля запрасіў а. Казіміра. На працягу доўгіх гадоў збіраліся з ім на св. Імшу кожную нядзелю ў пабрыгіцкім касцёле.

Мне ён запомніўся як вельмі добры, клапатлівы святар з выдатным пачуццём гумару. Ён заўсёды забаўляў нас выкананнем частушак на літоўскай мове – вельмі любіў гэты занятак. Прыгадваю таксама, як падчас шлюбнай св. Імшы, чытаючы малітву верных, а. Казімір адзначыў і мяне: "Памолімся за нашую Генечку, каб яна знайшла сабе добрага мужыка, а то самому даводзіцца прыходзіць у яе сад і трэсці яблыні, каб дапамагчы сабраць ураджай". Я была ўдавой, і мне сапраўды неабходна была падтрымка па гаспадарцы, а а. Казімір быў тым чалавекам, які не пакіне бліжняга ў патрэбе. Аднак у той дзень смяяліся ўсім касцёлам.

**А. Казімір Жыліс SJ адышоў па ўзнагароду да Пана 15 лютага ў Варшаве (Польшча).**

Мы любілі ладзіць Дзень цэпелін – нацыянальнай літоўскай стравы. Звычайна праводзілі яго ў Дзень незалежнасці Літоўскай Рэспублікі. Сутнасць была ў тым, каб кожны з удзельнікаў прыгатаваў цэпеліны на свой лад і прынёс іх частавацца. Зразумела, не адно такое свята не абыходзілася без а. Казіміра, які заўсёды хваліў мае цэпеліны з начыннем з трайнога мяса: птушкі, ялавічыны і свініны. І хоць звычайна святар быў цалкам непераборлівы ў ежы, у гэты дзень ён адводзіў душу. Аднак насамрэч, ці былі цэпеліны, ці не, за ўсім гэтым хавалася жаданне проста быць побач з людзьмі, якіх даверылі яго апецы.

Дарэчы, а. Казімір спачыў у вігілію свята незалежнасці Літвы. А мы, пакуль тут, будзем штомесяц на роднай мове святара ўзносіць малітвы аб вечным шчасці для яго ў Божым Валадарстве.

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Біскупы Еўропы заклікаюць стварыць "малітоўную сетку"

Рада Біскупскіх Канферэнцый Еўропы запрашае на працягу Вялікага посту маліцца за ахвяр пандэміі, ствараючы адмысловы "эўхарыстычны ланцужок".

Кожны еўрапейскі епіскапат арганізуе як мінімум адну св. Імшу ў інтэнцыі ахвяр каранавіруса. Падчас яе будуць маліцца таксама за сем'і, якія смуткуюць пасля смерці блізкіх, і ўсіх тых, хто ўсё яшчэ пакутуе ад віруса і чыё жыццё застаецца ў нявызначанасці.

### Сузаснавальніца прэстыжнага ўніверсітэта стане благаслаўлёнай

Адбудзецца беатыфікацыя сузаснавальніцы Каталіцкага ўніверсітэта Найсвяцейшага Сэрца ў Мілане (Італія) – адной з самых прэстыжных навучальных устаноў у Еўропе.

Арміда Барэлі (1882–1952) – італьянская свецкая верніца з Францішканскага ордэна свецкіх. Яна паходзіла з заможнай сям'і, атрымала добрую адукацыю і актыўна дапамагала сіротам і дзецям з бедных сем'яў у Мілане. Арміда Барэлі стварыла першыя гурткі маладых жанчын у руху "Каталіцкая акцыя", дала пачатак свецкаму інстытуту Місіянерак Валадарства Езуса, а таксама, разам з а. Агасціна Джэмэлі, стала сузаснавальніцай каталіцкага ўніверсітэта.

### Змены ў сістэме адбывання пакарання і судовага ладу ў Ватыкане

У Ватыкане быў абнародаваны Апостальскі ліст папы Францішка ў форме motu proprio адносна новаўвядзенняў у сферы ватыканскага крымінальнага заканадаўства.

Ва ўступе да дакумента Папа адзначыў, што змены прадыктаваны новымі патрабаваннямі ў сістэме крымінальнага правасуддзя і неабходнасцю яго пастаяннага прыстасавання да патрабаванняў часу.

У першую чаргу, гаворка ідзе пра магчымасць скарачэння пакарання на тэрмін 45–120 дзён за кожны год абмежавання волі асуджанага, пры ўмове, што на працягу адбывання зняволення яго паводзіны характарызуюцца раскаяннем і актыўным удзелам у праграмах сацыяльнай рэінтэграцыі.

### Малітоўныя інтэнцыі на сакавік

**паўсюдная**

Молімся, каб мы перажывалі сакрамант паяднання з абноўленай глыбінёй, каб цешыцца бясконцай Божай міласэрнасцю.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан благаславіў тых, хто здзяйсняе ўчынкі міласэрнасці, і дазволіў ім эфектыўна дапамагаць іншым.

ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# МІСІЯ – СЛУЖЫЦЬ ЛЮДЗЯМ

*Парафіяне касцёла св. Францішка з Асізі*

*Восем гадоў прайшло з таго часу, як парафію св. Францішка з Асізі ў г. Свіслач узначаліў а. Валерый Шэйгерэвіч OFMConv. Гады службы на Свіслаччыне для настаяцеля сталі перыядам духоўнага росту і развіцця. Нядаўна місіянер па волі Божай пакінуў свой пост і развітаўся з пушчанскім краем і любімымі парафіянамі.*

*Для а. Валерыя Свіслач – не першае месца службы. Да гэтага ён прапаведаваў Божае слова ў Гальшанах, Іўянцы і Поразаве. Кожная парафія дапамагала набірацца вопыту, узбагачала ўнутраны свет. Бо, па словах настаяцеля, чым больш служыш людзям, тым больш сам развіваешся духоўна.*

*Паслуга ў Свіслачы стала для а. Валерыя новым перыядам духоўнага развіцця. Стымул у працы надавалі адкрытыя і добрыя людзі, гатовыя прыйсці на дапамогу з любой нагоды. У зносінах з парафіянамі ў святара заўсёды панавалі ўзаемадапамога і ўзаемапавага. Гэта дапамагала аднаўляцца і набірацца новых сіл і энергіі.*

*Большаму збліжэнню айца са свіслачанамі паслужыла страта самага блізкага чалавека – мамы. У гэты цяжкі перыяд яны сталі для яго самымі роднымі, дапамаглі дастойна перажыць усе нягоды, падтрымлівалі і маліліся.*

*"Айцец Валерый – чалавек, якога Бог надзяліў вялікай прыгажосцю душы, дабрынёй і сціпласцю, мудрасцю ў духоўнай справе. Мы дзякуем Богу, што паслаў на наш шлях такога выдатнага настаяцеля і гаспадара касцёла. І хай кожны дзень у яго будзе радасным, шчаслівым і блаславёным", – кажуць удзячныя парафіяне.*

*Святар належыць да манаскага ордэна францысканцаў, з'яўляецца яго місіянерам і прапаведнікам. Галоўным прынцыпам лічыць паслухмянасць, таму, калі яго дапамога патрэбна ў іншым месцы, заўсёды выконвае Божую волю. Так і ў гэты раз прыйшлося расстацца з цяперашняй парафіяй і стаць пробашчам парафіі ў аграгарадку Пяршаі, а таксама, па сумяшчэнні, гвардыянам у манастыры ў Іўянцы.*

*"Мая асноўная місія – служыць годна людзям там, куды мяне заклікае Гасподзь. Хачу за ўсё сказаць «дзякуй» Богу. А таксама падзякаваць жыхарам Свіслачы за дапамогу, падтрымку, разуменне, павагу і супрацоўніцтва, – выказаўся а. Валерый. – Любімыя парафіяне касцёла св. Францішка Асізскага, турбуйцеся пра сябе і памятайце пра іншага чалавека, не забывайце дзякаваць Богу, чыё слова павінна быць на першым месцы. Калі вы будзеце з Ім, Ён вам абавязкова дапаможа. Паважайце і шануйце святароў, якія будуць служыць вам".*

*Пробашч парафіі – гэта чалавек, які нястомна дорыць сваё жыццё служэнню Пану і людзям. Калі казаць пра духоўную сілу а. Валерыя, то асноўнай яе крыніцай служаць малітвы. Тым не менш, не пазбаўлены святар і мірскіх радасцей. Ён актыўна займаецца спортам сам і прыцягвае моладзь да гэтай карыснай справы. Таксама сярод самых любімых заняткаў – чытанне мастацкай літаратуры на польскай мове і велапрагулкі па лясных пушчанскіх масівах.*

*За восем гадоў а. Валерый прыкіпеў да горада, парафіян. Але, як сам кажа, ён выконвае Божую волю. Калі ў будучыні з'явіцца магчымасць вярнуцца на Свіслаччыну, з радасцю прыедзе назад.*

*Важна тое, што, дзе б ні апынуўся а. Валерый, ён заўсёды з бязмежнай любоўю і вялікім дарам усёдаравання будзе несці святло ў сэрцы людзей, кіруючыся высокімі ідэаламі веры і духоўнасці.*

ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ГЕРМАНІЯ.** Нямецкі епіскапат абраў жанчыну сакратаром. 51-гадовая доктар Біт Жыль стане першай жанчынай на гэтай пасадзе. Выбар быў зроблены ўдзельнікамі пленарнага сходу епіскапату. Новыя абавязкі яна прыме на сябе 1 ліпеня. Да гэтага часу Жыль была кіраўніком аддзела душпастырства дзяцей, моладзі і сям'і ў біскупскай курыі ў Лімбургу. Ардынарыем гэтай дыяцэзіі з'яўляецца біскуп Георг Бецынг, старшыня епіскапату. На прэс-канферэнцыі ён ацаніў сваю калегу як "сур'ёзнага тэолага", які ведае розныя структуры Каталіцкага Касцёла і валодае найлепшымі арганізатарскімі здольнасцямі.

**ІТАЛІЯ.** Папа наведаў Эдыт Брук, паэтэсу і яўрэйку, якая перажыла Халакост. 90-гадовая Эдыт Брук (Эдыт Штайншрайбер) нарадзілася ў вёсцы Цісаберцэль каля ўкраінскай мяжы ў 1931 годзе. У 1944 годзе трапіла ў Аўшвіц. Затым у Дахаў, затым у Крысціанштадт і, нарэшце, у Берген-Бельзен, адкуль у 1945 годзе была вызвалена саюзнікамі. Падчас размовы з Папам спадарыня Брук распавяла пра светлыя моманты, якімі быў усеяны досвед пекла канцлагераў, узгадала страхі і надзеі, звязаныя з часам, у якім мы жывём, падкрэсліла значэнне памяці і ролю пажылых людзей у яе выхаванні і перадачы маладзейшым.

**КІТАЙ.** Католікі з Кульджы ў аўтаномным округу Сіньцзян на паўночным захадзе Кітая павінны як мага хутчэй ачысціць і пакінуць касцёл Святога Сэрца. Па рашэнні мясцовых улад, святыня ў бліжэйшы час павінна быць знесена. Гэта азначае, што група больш за 2000 вернікаў страціць месца малітвы і цэлебрацыі св. Імшы. Улады не падалі афіцыйнай прычыны зносу касцёла, але многія падазраюць, што справа датычыць выкарыстання зямлі, на якой ён стаіць. Там можа быць пабудаваны буйны гандлёвы цэнтр. Таму што касцёл знаходзіцца ўздоўж вуліцы, якая вядзе да мясцовага аэрапорта, і яна будзе набываць усё большае значэнне ў гарадскім планаванні.

**АНГЛІЯ.** Дыяцэзія Салфард – першая каталіцкая дыяцэзія ў Англіі, якая прызначыла штатнага каардынатара, адказнага за ўкараненне экалагічнай стратэгіі. Пілотны даследчы праект накіраваны на аб'яднанне намаганняў усёй каталіцкай супольнасці ў Англіі і Уэльсе для вырашэння бягучага экалагічнага крызісу. Спецыялісты, якія ўдзельнічаюць у праекце "Вартаўнікі тварэння", распрацоўваюць інструменты для разліку выкідаў вуглякіслага газу і для экалагічнага менеджменту.

***Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.***

# ПЕРАРЫВАЮЧЫ МАЎЧАННЕ

*працяг са с. 1*

*Апрацавала Ангеліна Марціш*э*ўская*

### АБ'ЯЎЛЕННЕ СВ. ЮЗАФА Ў КАТЫНЬЯКУ Ў ФРАНЦЫІ

Першае аб'яўленне св. Юзафа адбылося ў невялікім мястэчку ў Правансе. Менавіта там 7 чэрвеня 1660 года св. Апякун Марыі і Езуса з'явіўся перад французскім пастухом. Гаспард Рыкард пасвіў статак на ўзгорку Бесіён. Было горача, і малады чалавек быў надзвычай стомлены і знясілены ад смагі. У нейкі момант ён убачыў мужчыну, які ўказаў на скалу і прамовіў толькі некалькі слоў: "Я Юзаф. Падымі камень і будзеш піць".

Гаспард завагаўся. Камень быў цяжкі, і каб яго перамясціць, трэба было некалькі чалавек. Тым не менш ён выканаў наказ і адсунуў камень. Убачыў крыніцу, з якой лілася вада. Праз некалькі гадзін пасля гэтай сустрэчы крынічка ператварылася ў фантан з вялікай колькасцю вады. З тых часоў у гэтае месца сталі прыходзіць людзі, і пачаліся шматлікія выздараўленні.

19 сакавіка 1661 года да месца аб'яўлення Абранніка Марыі прыбыў Людовік XVI, які абвясціў свята св. Юзафа дзяржаўнай урачыстасцю.

Праз гады на месцы цуду быў пабудаваны араторый, гаспадарамі якога сталі ксяндзы з Кангрэгацыі Араторыя св. Філіпа Нэры, якія служылі ў Катыньяку.

Пасля выбуху Французскай рэвалюцыі 1789–1799 гадоў і ў выніку наступных сацыяльных і рэлігійных змен ксяндзы філіпіны былі выгнаны з капліцы і манастыра, пабудаванага побач. Капліца не была разбурана, але кляштар з гадамі прыйшоў у заняпад. З 1977 года ў манастыры служаць сёстры бенедыктынкі.

Цяпер да месца аб'яўлення св. Юзафа цягнецца паломніцкі шлях, які ахвотна наведваюць натоўпы вернікаў. Крыніца да гэтага часу не перасохла, нягледзячы на тое, што ад цудоўнай сустрэчы прайшлі ўжо вякі.

**19 сакавіка Каталіцкі Касцёл адзначае свята св. Юзафа, Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі. Святы Айцец Францішак таксама абвясціў аб пачатку асаблівага Года св. Юзафа, адзначэнне якога скончыцца 8 снежня 2021 года.**

Падчас аб'яўленняў у Катыньяку св. Юзаф зноў быў немнагаслоўны, але тым не менш, як звычайна, аказаўся красамоўным. У яго сціплым пасланні бачым заклік не баяцца зрабіць першы крок, нават калі ўся задача здаецца непасільнай. Абраннік Марыі падкрэслівае, што простыя дзеянні пацягнуць за сабой простыя шляхі вырашэння праблемы, а ад нас патрэбны толькі цярплівасць і паслядоўнасць ва ўласных учынках. А калі глыбей зазірнуць у простыя словы св. Юзафа, бачым у іх той самы сэнс, які ён надае ўсім сваім выказванням і дзеянням: давярайце Божаму плану.



*Эдсан Глаўбер пазней згадваў, што св. Юзаф аб'яўляўся з сэрцам на грудзях, а ў яго сэрцы была літара "М" з крыжам*

### АБ'ЯЎЛЕННЕ СВ. ЮЗАФА Ў ІТАПІРАНЗЕ Ў БРАЗІЛІІ

Св. Юзаф аб'яўляўся разам з Езусам і Марыяй у невялікім гарадку Ітапіранга на рацэ Амазонка на поўначы Бразіліі ў перыяд ад 1994 да 1998 года.

У першую сераду сакавіка 1994 года 22-гадовы Эдсан Глаўбер, студэнт мясцовага эканамічнага ўніверсітэта, атрымаў пасланне, у якім Марыя, Каралева Ружанца і Свету, прасіла аб навяртанні, ружанцовай малітве і частым выкарыстанні сакрамантаў Эўхарыстыі і паяднання. Марыя таксама звярнула ўвагу на набажэнства да Найчысцейшага Сэрца св. Юзафа.

За чатыры гады аб'яўленняў Святой Сям'і св. Юзаф таксама даў Эдсану некалькі абяцанняў: "Як я справядлівы і верны ў вачах Бога, так і тыя, хто аддаецца набажэнству да майго сэрца, будуць чыстымі, праведнымі і святымі ў Яго вачах. Я напоўню вас ласкамі і цнотамі, падтрымліваючы на штодзённым шляху да святасці".

Св. Юзаф таксама абяцаў, што "ўсе, хто будзе рабіць дабро найбольш патрабуючым, асабліва хворым і паміраючым, якіх я суцяшаю і абараняю, атрымаюць у апошні момант жыцця ласку добрай смерці. Я сам буду прасіць за душы [дабрачынцаў] майго Сына Езуса і маю жонку Найсвяцейшую Марыю. Мы суцешым іх у апошнія гадзіны на зямлі, будзем побач з імі, і яны спачнуць у спакоі нашых сэрцаў". У пасланні таксама абяцалася, што ўсе грэшнікі, "нават тыя, хто ўчыніў найгоршыя грахі, могуць верыць у Божую любоў і прабачэнне, а таксама ў мяне, у маю падтрымку".

У пачатку 2010 года, пасля шматлікіх даследаванняў – вывучэння, малітваў і назіранняў – мясцовы біскуп Карыла Грыці афіцыйна прызнаў Ітапірангу месцам аб'яўленняў Святой Сям'і. 19 чэрвеня 2013 года Кангрэгацыя Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў увяла імя св. Юзафа ва ўсе эўхарыстычныя малітвы.

Бразільскія аб'яўленні Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі нагадваюць нам пра апякунскую ролю гэтага святога ў гісторыі хрысціянства. Св. Юзаф клапаціўся пра Езуса і Марыю, а цяпер просіць нас маліцца да яго сэрца, каб ён мог увайсці ў наша жыццё і старанна, ва ўсякай маленькай і ўсякай вялікай справе клапаціцца пра кожнага з нас. Абяцаючы нам сваё заступніцтва, ён просіць у нас таго ж для самых патрабуючых.

# ПАБЫЦЬ САМ-НАСАМ З БОГАМ

працяг са с. 1

*Кс. Яўген Амасёнак*

Напэўна, кожны хрысціянін, перш чым распачаць перыяд Вялікага посту, задумваецца над тым, як плённа перажыць гэты бясцэнны час. Адны стараюцца ажыццявіць велікапосныя пастановы, звязаныя з абмежаваннем сябе ў ежы, альбо практыкуючы сціслы пост па пятніцах; іншыя складаюць ахвяры на ўтрыманне парафіяльнай святыні альбо дабрачыннай арганізацыі, дапамагаючы пры гэтым канкрэтным людзям у патрэбе. Аднак, як мне здаецца, для сучаснага чалавека, якому вельмі цяжка спыніцца ў імклівым рытме сваёй штодзённасці, найважнейшай у гэты перыяд можа стаць хвіліна, праведзеная сам-насам з Богам у касцёле ці падчас асабістай малітвы.

На мой погляд, асноўнай прычынай трывалага неспакою і заклапочанасці ў сённяшнім грамадстве з'яўляецца перанасычанасць інфармацыяй, якая даносіцца з усіх бакоў, а таксама празмернае паглыбленне ў сацыяльныя сеткі, што пазбаўляе чалавека неабходнай для духоўнага росту цішыні і ўдумлівасці. Таму Вялікі пост – гэта час, які дазваляе паглядзець на сваё жыццё з адлегласці і аднавіць сувязь з Богам, сузіраючы Яго бязмежную любоў, праяўленую праз мукі і смерць на крыжы. А таксама гэта перыяд, які дае магчымасць лепш пазнаць саміх сябе, паступова адкрываючы ў сабе Божы вобраз і разважаючы над ахвярай Хрыста, якую Ён здзейсніў дзеля кожнага з нас.


wikipedia.org

Каталіцкі Касцёл, у сваю чаргу, паклапаціўся пра тое, каб гэты саракадзённы час навяртання быў прасякнуты шматлікімі набажэнствамі, прызначанымі для больш выразнага перажывання духоўных і фізічных цярпенняў і мук Хрыста, якія Ён зведаў на шляху да Галгофы. Такім чынам, кожны хрысціянін, прымаючы ўдзел у велікапосных малітоўных практыкаваннях, мае магчымасць запытаць самога сябе: “Кім я з'яўляюся на гэтым Крыжовым шляху? Пятром, які здрадзіў Хрысту; Пілатам, які не знайшоў у сабе адвагі, каб што-небудзь прадпрыняць; чалавекам з натоўпу, які патрабаваў смерці Хрыста; Сымонам Кірынейцам, які дапамагаў несці крыж, ці Янам, адзіным вучнем, што застаўся з Хрыстом?”.

Варта таксама заўважыць, што ва ўсіх велікапосных практываннях выключную ролю займае сузіранне крыжа, якое дапамагае, наколькі гэта, канечне, магчыма, дакрануцца да ўсяго таго, што перажыў Хрыстос. Бо заўважце: ні здрада вучняў, ні нясцерпны боль ад кроватачывых ран, ні нянавасць з боку акружэння не сталі перашкодай для Езуса, каб ажыццявіць збаўчую волю Айца.

Што гэта можа значыць для нас сёння? Як гэтае малітоўнае сузіранне можа дапамагчы нам у перажыванні штодзённасці? Гэта значыць, што на працягу дня мы можам як мага часцей звяртаць свой позірк на крыж, асабліва ў моманты, калі ў сэрца закрадаецца раздражненне з-за стомленасці ці нежадання прыняць Божую волю і тыя падзеі, што адбываюцца ў жыцці; калі апускаюцца рукі і роспач пранізвае да глыбіні душы; калі сутыкаешся з балючым незразуменнем з боку тых, каго найбольш любіш і г. д. Бо толькі разважанне аб незаслужаных і несправядлівых цярпеннях Хрыста могуць дапамагчы нам знайсці сілы для далейшай барацьбы.

На працягу Вялікага посту немагчыма забыць таксама пра Ружанцовую малітву, асабліва пра разважанне над Балеснымі таямніцамі, што дапаможа паглядзець на жудасныя мукі Хрыста вачыма Той, якая ўвесь час суправаджала Сына падчас здзяйснення збаўчай місіі. Менавіта Найсвяцейшая Панна Марыя можа стаць для нас у гэтыя дні ўзорам сапраўднай вернасці і даверу да Бога ажно да смерці.

Саракадзённы час навяртання можа быць добрай нагодай, каб распачынаць чарговы дзень з ранішняй медытацыі над Божым словам, а дакладней, з Евангелля, якое Касцёл прапануе на сёння. Падчас літургіі ў Пальмовую нядзелю і Вялікую пятніцу мы пачуем эпізоды з Евангелля, прысвечаныя цярпенням і мукам Хрыста. Аднак ужо з першых дзён Вялікага посту можна пачаць разважаць над гэтымі фрагментамі. Матыў Псальма 51 (50) “Змілуйся нада мною, Божа, у вялікай міласці Тваёй і ў паўнаце міласэрнасці Тваёй знішчы беззаконні мае”, які чуем у Папяльцовую сераду, таксама можа быць сапраўдным штуршком для глыбіннага пакаяння і скрухі сэрца.

Несумненна, найлепшым спосабам перажывання гэтага бясцэннага часу павінен стаць наш удзел у Эўхарыстыі, аднак не толькі ў нядзелю, але і ў звыклыя дні. Мы часта недаацэньваем значэнне і сутнасць святой Ахвяры, падчас якой здзяйсняецца Пасхальная таямніца. Бо тое, што адбываецца на алтары, а менавіта момант, калі Хрыстос ахвяруе сваё Цела, аддадзенае Ім за нас на крыжы, і сваю Кроў, якая “за многіх праліта дзеля адпушчэння грахоў” (Мц 26, 28), павінна стаць для нас крыніцай і вяршыняй штодзённага хрысціянскага жыцця.

Моцна веру ў тое, што калі “заслона” над гэтым светам канчаткова развеецца, мы пераканаемся, што малітва была той таямнічай сілай, вакол якой выстройвалася ўсё ў нашым жыцці. Таму што маліцца настолькі ж уласціва чалавечай натуры, наколькі ўласціва чалавеку дыхаць, есці ці любіць. Малітва ачышчае і дапамагае супрацьстаяць спакусам. Малітва ўмацоўвае ў слабасцях, перамагае страх, удасканальвае ў любові і надае нашаму жыццю адзіны і непаўторны сэнс.

# КАЛІ ПАСТАНОВА СТАНОВІЦЦА ДАРАМ?

*С. Зоя Дамброўская*

Час Вялікага посту атаясамліваецца ў нас з пастановамі, адрачэннем, намаганнямі. Не аднойчы мы настолькі паглынутыя сваімі пастановамі, што забываемся пра некалькі важных момантаў, якія надаюць ім сэнс. Тады замест навяртання трэніруем сваю волю альбо клапоцімся пра фігуру і здароўе, даказваем сабе і іншым, што можам не піць алкаголю, не есці прысмакаў, не паліць, а таксама шмат іншага робім, каб паказаць, на што мы здольныя. Аднак у Вялікім посце гаворка зусім не пра гэта... А пра **любоў, навяртанне, нашу маласць, слабасць і барацьбу з эгаізмам.** Дзіўна? Я ўжо тлумачу, што маю на ўвазе.

**Любоў** – таму што Езус з любові прыйшоў на зямлю, зведаў жорсткія мукі і памёр на крыжы, а потым уваскрос. З любові да Цябе і да мяне – такіх, якія мы ёсць. І адзінае, чаго Ён прагне ад нас узамен, – любоў. Таму, калі я жадаю прыняць якую-небудзь пастанову, то толькі таму, што хачу больш любіць Езуса і іншых людзей. Гэта прыгожа гучыць, але ўсё ўскладняецца, калі пераходзім да канкрэтыкі. Бо калі прыглядзімся да сябе і здолеем зразумець, што ў нашых паводзінах раніць Езуса і бліжніх, няпроста будзе змяніць альбо адмовіцца ад гэтага. Падумай, што можа займаць такое месца ў Тваім жыцці. Калі глыбока зазірнём у сваё сэрца, то адной гэтай рэчы можа быць дастаткова для пастановы на ўвесь перыяд Вялікага посту. Толькі трэба ўбачыць сябе ў праўдзе, што таксама няпроста. Варта папрасіць у Святога Духа аб гэтым дары.

**Навяртанне** – гэта змена мыслення. Маю на ўвазе наша ўспрыманне таго, што робім для Бога. Часам мы паводзім сябе так, быццам міласціва знаходзім некалькі хвілін свайго каштоўнага часу для малітвы, забываючы, што Бог з'яўляецца Валадаром часу і вечнасці, альбо думаем, што ўласнымі намаганнямі можам нешта змяніць у сабе. Калі Ты ўжо спрабаваў сур'ёзна змагацца з нейкай сваёй слабасцю, то з вопыту ведаеш, што не можаш змяніцца без дапамогі Езуса.

У гэтым кантэксце мне вельмі падабаецца апавяданне пра малога хлопчыка, які з мамай прыйшоў на канцэрт вядомага піяніста. Хлопчыку было крыху сумна ў вялікай зале, поўнай людзей, якія чакалі цудоўнага канцэрта. Калі мама на хвілінку адвярнулася, каб паразмаўляць з жанчынай, якая сядзела побач, малы ціха ўстаў і пайшоў да сцэны, не ведаючы, што гэта. Ён убачыў лесвіцу і зайшоў за таямнічую заслону, за якой аказалася прыгожае фартэпіяна. Хлопчык ужо пачаў вучыцца ў музычнай школе, таму падышоў і сеў на зэдлік пры інструменце. Раптам загарэлася святло, прагрымелі бурныя апладысменты, заслона раскрылася, і на сцэну выйшаў піяніст. Ён быў трохі здзіўлены, убачыўшы перапалоханага хлопчыка са слязьмі на вачах, які быў аслеплены яркімі агнямі і не мог знайсці вачыма маму. Але музыкант спакойна падышоў да дзіцяці і спытаў яго, ці ўмее граць на фартэпіяна. Хлопчык, змагаючыся са слязьмі, зрываючымся голасам адказаў, што можа сыграць песню “Узлез каток на платок”. Сусветна вядомы піяніст сур'ёзна паставіўся да гэтага прызнання і прапанаваў дзіцяці зайграць. Дрыжачымі пальцамі, не заўсёды трапляючы на патрэбныя клавішы, маленькі хлопчык сыграў свой твор. Затым музыкант прапанаваў маладому піяністу зайграць зноў, але ўжо ўдвух. Хлопчык іграў усё больш упэўнена і смела, ужо не блытаў ноты, а майстар фартэпіяна граў з ім, на ходу ствараючы з гэтай простай песенькі арыгінальную і дзівосную імправізацыю. Яшчэ доўга пасля ў прэсе згадваўся гэты канцэрт як найпрыгажэйшае выступленне славутага музыканта за ўсё турнэ.

Прыблізна так выглядае наша супрацоўніцтва з Богам у імкненні да навяртання, дабра, прыгажосці, святасці. Езус не хоча рабіць гэтую цудоўную справу без нашага ўбогага, маленькага, сціплага, дрыжачай рукой сыгранага “Узлез каток...”. Таму пастановы патрэбны для таго, каб мы адкрыліся на Божую ласку і на цуды, якія Ён прагне ўчыніць у нас, і прагне нашмат больш, чым мы самі. Спадзяюся, Ты ўжо разумееш, што я мела на ўвазе адносна **навяртання і нашай маласці.**

Магчыма, Цябе здзіўляе, што пры нагодзе велікапосных пастаноў кажу пра **барацьбу з эгаізмам.** Іменна так, некаторыя пастановы з'яўляюцца мастацтвам дзеля мастацтва, і замест таго, каб змяняць нас да лепшага і адкрываць на іншых, яны замыкаюць нас у цесным коле здзяйснення чагосьці выключна для сябе. Вось прыклад. Калі я прымаю праславутую пастанову не есці салодкага і даказваю сабе, што магу, а ў дадатку гэта прыносіць карысць майму здароўю, то я нічога не раблю для іншых. Інакш, калі гэтыя прысмакі я аддаю каму-небудзь альбо ахвярую патрабуючым зэканомленыя грошы. Ці калі хачу адмовіцца ад пастаяннага баўлення часу ў сацыяльных сетках, вызвалены час магу правесці з блізкімі або з тымі, хто патрабуе дапамогі. Мая ахвяра, адмова ад чагосьці павінна стаць падарункам для іншых, тады гэта вылечвае мяне ад эгаізму!

Вяртаючыся да першапачатковага пытання пра тое, ці маюць і калі велікапосныя пастановы маюць сэнс, можам сцвердзіць, што маюць, але толькі ў тым выпадку, калі яны зроблены з любові да Езуса, з жаданнем навярнуцца і з усведамленнем уласнай маласці, а таксама для таго, каб перамагаць у сабе эгаізм. Няхай мая пастанова, мая ахвяра стане дарам!

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ПСІХАЛАГІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ МАЛІТВЫ


Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

**Малітва – гэта цэнтральны і найбольш яскравы выраз веры рэлігійнага чалавека. Яна адыгрывае асноўную ролю ў жыцці верніка і мае вялікае значэнне, паколькі з'яўляецца выразным і зразумелым крытэрыем аддзялення веры ад няверы.**

Хацелася б адзначыць, што малітва можа быць вытлумачана ў псіхалагічных катэгорыях. Каб чалавек пачаў маліцца, яму неабходна ўнутрана засяродзіцца, супакоіцца і звярнуцца да Бога. Малітва не можа існаваць без усведамлення існавання Усемагутнага і дасягае сваёй мэты, толькі калі асоба з Ім сустракаецца. Падчас сустрэчы зместаў новыя думкі пранікаюць з несвядомасці ў свядомую сферу. Чалавек, наколькі гэта магчыма, набліжаецца да Бога і адчувае радасць ды задавальненне. Аўтэнтычнае перажыванне малітвы нясе з сабой духоўныя і псіхалагічныя каштоўнасці. Такім чынам, што малітва можа даць асобе? У першую чаргу...

**1. Дапамагае лепш пазнаць сябе.** Дзякуючы малітве чалавек дабіраецца да сваіх утоеных жаданняў, пазнае свой унутраны свет з яго перавагамі і недахопамі, а пазнаючы ўласнае жыццё, разам з Богам шукае тое, што для яго найлепш.

**2. Спрыяе адухаўленню.** Скіроўванне зямных спраў да Усемагутнага прыводзіць да таго, што яны набываюць іншую вартасць, адухаўляюцца. Чалавек шукае Пана, таму што прагне Яго апекі і дапамогі, жадае прабачэння грахоў, шукае любові. Ён ведае, што ў Богу можа знайсці святасць, знайсці тое, што яму найбольш патрэбна.

**3. Змяняе асабістае жыццё.** Дзякуючы малітве чалавек развіваецца духоўна, па-іншаму глядзіць на многія зямныя справы і, такім чынам, асабіста пераходзіць на больш высокі ўзровень развіцця.

Дзякуючы малітве чалавек можа ўсвядоміць свае патрэбы і рэальнасць, даведацца, што самадастатковасць з'яўляецца самападманам, а малітва дае магчымасць вырашэння праблем і стварае канкрэтны план дзеянняў. Яна аднаўляе псіхічную энергію чалавека праз кантакт з Богам, абуджае веру і надзею, уносячы ў розум супакой, што таксама вядзе да памяншэння страхаў, напружання і гневу. Акрамя таго, яна робіць асобу адчувальнай да патрэб іншых, умацоўвае духоўныя і фізічныя сілы. Безумоўна, гэта толькі некаторыя з псіхалагічных значэнняў малітвы, і іх спіс значна большы.

Пэўныя псіхалагічныя даследаванні аналізавалі малітву, спрабуючы разабрацца, чаму адзін чалавек просіць Бога, напрыклад, аб здароўі, а другі толькі адарue Яго. На думку групы псіхолагаў, спосаб малітвы шмат у чым залежыць ад характару і тэмпераменту асобы, якая моліцца. Малітоўнае жыццё двух людзей не будзе аднолькавым.

Варта памятаць, што малітва – гэта Божы дар, дзякуючы якому чалавек можа знайсці Бога і адчуць сябе шчаслівым. Няхай у нашым жыцці будзе дастаткова малітвы, асабліва цяпер, у цяжкія часы, калі перажываем пандэмію. Да таго ж, падчас Вялікага посту малітвы можа быць яшчэ больш.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

# ЭКАКУЛЬТУРА ГАРАДСКОГА АСЯРОДДЗЯ


Алена Майсюк




працяг са с. 1

**Прыгажосць наваколля радуе, напаўняе наш унутраны свет, здольна лячыць душу. Жыхары горада і ёсць тыя, хто стварае прыгажосць у сваёй прасторы. Нават калі Вы ўзаемадзейнічаеце з навакольным асяроддзем з найлепшымі намерамі, часам можаце сустрэць дзеянні, якія руйнуюць гармонію прасторы. У такім выпадку Вы здольны дапамагчы вярнуць прыгажосць.**

### УЗЯЦЬ НА СЯБЕ АДКАЗНАСЦЬ ЗА ЎЛАСНЫЯ ЎЧЫНКІ

Белы снег сёлета змяніў наваколле. Ад яго вее чысцінёй і свежасцю... да першага вываду сабак, да першага паркавання аўтамабіляў на газоне, да першага смецця, вынесенага ветрам або варонай з адкрытага кантэйнера. Што ж рабіць, каб горад заставаўся чыстым?

Першае, што можа кожны з нас – падумаць, ці будуць яго дзеянні прыносіць радасць або, магчыма, прычыняць дыскамфорт іншым. Кожная дробязь можа стаць важнай у агульным абліччы гарадской прасторы.

Да прыкладу, чалавек паліць у чаканні грамадскага транспарту. Дым ад цыгарэты – ужо ўварванне ў прастору іншых, ён атручвае. Кінуты недакурак змяняе аблічча чыстай прасторы, можа прывесці да атручэння птушак, якія ў пошуку матэрыялаў для гнёздаў часта падбіраюць фільтры. На іх накопліваецца канцэнтрат ядахімікатаў, ад чаго фільтр не раскладаецца. Напрыклад, трапляючы ў ваду, ён прыносіць шкоду вадаплаўным птушкам, рыбам і тым, хто будзе гэтую ваду піць.

Аматары сабак, выходзячы на шпацыр, забываюць прыбіраць за сваімі гадаванцамі. Сучасны корм стварае экскрэменты, якія не раскладаюцца вельмі доўга, могуць стаць праблемай для здароўя іншых сабак, застацца непрыемным брудам на абутку мінакоў. Ды і сама сабака на наступнай прагулцы будзе ісці па той жа дарожцы.

Аўтаўладальнікі хочуць паставіць аўтамабіль бліжэй да свайго дома, а купляючы машыну, забываюць падумаць пра тое, дзе будуць яе захоўваць. Заўважалі, як аўтамабілі адымаюць зручную прастору? Займаюць пешаходныя дарожкі, па якіх пасля немагчыма рухацца. Стаяць на дзіцячых пляцоўках, памяншаючы месца для дзіцячага адпачынку. Вытоптваюць газоны, пасля чаго падымаюцца пыльныя буры з часціцамі ад выхлапных газаў і хімічных уцечак з аўтамабіляў.

Чалавек, выкідваючы смецце, можа прыадчыніць кантэйнер, а пасля зачыніць яго, каб усё змесціва змагло даехаць да смеццесартавальнага завода. Калі гараджанін паленаваўся зачыніць за сабой кантэйнер або выкінуў бытавыя адходы ў кантэйнер для буйнагабарытнага смецця, на вуліцах затым можна ўбачыць брудныя бясплатныя пакеты, якія кружыць вецер.

Прыгожа распісаныя мураламі будынкі надаюць большую мастацкую напоўненасць, у адрозненне ад няўмелых росчыркаў графіці на сценах. А ў чысты пад'езд і ліфт прыемней заходзіць, чым у апляваны і закіданы смеццем.

Забруджванне прасторы бывае яшчэ светлавое і шумавое. Камусьці можа быць весела ад петард, феерверкаў у спальных раёнах, рову магутнага матора ноччу, праслухоўвання музыкі на публіцы. Але трэба памятаць, што ёсць людзі, маленькія дзеці і птушкі, якім важны спакой. Любое прыватнае дзеянне парадуе больш, калі пасля ўсе вакол застануцца задаволены.

### ДАПАМАГЧЫ ПАРАДАЙ БЛІЖНЯМУ

Нават калі Вы пакідаеце чыстай прастору навакол, заўсёды можна яе палепшыць: пасадзіць хмызнякі або дрэвы, падфарбаваць лаўку ці дзіцячую пляцоўку. Можна падняць паперку, якая ўпала, або папрасіць прыбраць за сабой таго, хто забыўся, што гарадская прастора агульная для ўсіх. Курцу нагадаць, што ў грамадскіх месцах курэнне забаронена, а ўладальніку сабакі – што за гадаванцам трэба прыбіраць. Тым, хто парушае правілы паркоўкі аўтамабіляў, можна нагадаць, што ёсць спецыяльна адведзеныя для гэтага месцы. Незгаворлівым аўтаўладальнікам дапаможа званок у 102. Падтрымліваць чысціню горада можна і праз звароты ў дыспетчарскую службу па нумары 115 або пакідаючы заяўку на сайце www.115.бел.

Людзі пашыраюць прастору для сябе за кошт дзікай прыроды, таму ўзнікла патрэба нагадаць, што для раўнавагі на Зямлі ўсё жывое і асяроддзе яго пражывання гэтак жа важныя, як і чалавечыя патрэбы. У сувязі з гэтым, **3 сакавіка адзначаем Сусветны дзень дзікай прыроды**, прыпамінаючы: усё можа быць на карысць, калі не ўзносіць свае патрэбы над патрэбамі іншых. Усё адзінае на Зямлі, як без пчол не можа быць пладоў, а без пладоў не можа быць чалавека.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці забаронена ўвогуле святкаваць у Вялікім посце?

*grodnensis.by*

*Урачыстае адзначэнне гадавіны дня нараджэння глыбока ўкаранёна ў традыцыі нашага народу і служыць пабудове сямейных і сяброўскіх сувязей у атмасферы любові ды цеплыні. Аднак ёсць вельмі шмат людзей, чые дні нараджэння, імяніны ці іншыя асабістыя ўрачыстасці прыпадаюць на Вялікі пост. Як жа святкаваць у посце?*

*4-ты касцёльны наказ вучыць: "Захоўваць ва ўстаноўленыя дні пост і ўстрыманне ад мясных страў, а ў перыяды пакаяння не ўдзельнічаць у забавах". Прычым дзеючы ў цяперашні час закон гаворыць аб забавах наогул, не ўдакладняючы, якія яны. Касцёл пакідае на сумленне вернікаў вызначэнне рамак і спосабу перажывання Вялікага посту. Безумоўна, танцы і гучную музыку неабходна выключыць. Варта памятаць, што мэта гэтых наказаў – дапамагчы вернікам у самакантролі і фарміраванні свабоды сэрца.*

*Дзень нараджэння, падобна як імяніны і розныя гадавіны, з'яўляецца добрай нагодай, каб падзякаваць Богу за атрыманае жыццё і незлічоныя дары. Таму здаецца, што лепшы спосаб адзначыць уласныя святы – гэта, перш за ўсё, малітва, а таксама, па магчымасці, удзел у Эўхарыстыі. Варта ў гэты дзень альбо напярэдадні прыступіць да споведзі, каб з чыстай душой прыняць св. Камунію. Годным для перайманне з'яўляецца таксама замаўленне многімі вернікамі св. Імшы з нагоды важных дат.*

*Падчас Вялікага посту можна арганізаваць дзень нараджэння ці імяніны, але трэба памятаць пра забарону на ўдзел у забавах. Можна адчуць радасць і без шумнай вечарыны, алкаголю або, па меншай меры, без напівання. У такім выпадку нават ёсць больш магчымасцей для сяброўскіх размоў. Вядома, можна таксама перанесці святкаванне на час пасля Вялікадня.*

*Акрамя таго, вельмі часта ў перыяд Вялікага посту адзначаецца Жаночы дзень. Як і ў любым іншым выпадку, у гэты дзень вернікі маюць асаблівую нагоду маліцца праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі, апякункі ўсіх жанчын. Безумоўна, не парушым дух Вялікага посту, павіншаваўшы дарагіх сэрцу асоб і з'еўшы кавалак смачнага торта. Аднак удзел у масавых мерапрыемствах, а таксама арганізацыя ў гэты дзень шумнай забавы, звязанай са злоўжываннем алкаголем, з гучнай музыкай і танцамі, несумненна, будзе парушэннем 4-га касцёльнага наказу.*

*У перыяд Вялікага посту можна сустрэцца з сям'ёй ці сябрамі, схадзіць у тэатр, кінатэатр ці філармонію. Для некаторых людзей, залішне паглынутых паўсядзённымі справамі, такое бавленне часу можа быць нават добрым велікапосным учынкам. Правільнае перажыванне Вялікага посту – гэта не толькі адмаўленні і абмежаванні, але, перш за ўсё, час добрых спраў і самарэфлексіі, малітвы, міласціны, дапамогі бедным і дбайнага выканання сваіх абавязкаў.*

# ПОСТ – ГЭТА АКТ ЛЮБОВІ ДА БОГА



**"Не хлебам адным будзе жыць чалавек, а кожным словам, што выходзіць з вуснаў Божых".**
*Мц 4, 4 .*

*Людвіга Цыдзік*

Любоў... Што гэта і як яе паказаць? У людскім вымярэнні ўсё здаецца відавочным. Каханая асоба звычайна займае самае важнае месца ў нашым сэрцы. Калі мы кагосьці любім, уся наша душа, думкі, жаданні і мары накіраваны на гэтую асобу. Мы хочам праводзіць разам як мага больш часу, быць побач і атрымліваць асалоду ад размовы. Цешымся, калі падзяляем агульнае меркаванне і "знаходзімся на адной хвалі". Стараемся пазбягаць усяго, што магло б засмуціць каханую асобу або раніць яе, і стараемся рабіць тое, што прыемна.

Ці ёсць ад любові якаянебудзь карысць? Ці можам прымусіць кагосьці да ўзаемнага пачуцця? Сталая любоў – гэта дабравольная адданасць і ахвяраванне іншай асобе самага лепшага ад чыстага сэрца, не чакаючы нічога ўзамен. Жаданне кахаць і быць каханым – галоўная ўзнагарода.

### ЯК АКАЗАЦЬ ЛЮБОЎ БОГУ?

Дык чаму так цяжка часам праяўляць любоў да Бога? У рэшце рэшт, мы створаны па Яго вобразе. Што прыемна нашаму Нябеснаму Айцу? Што мы можам падарыць Яму ў знак сваёй любові, калі ўсё і так ад яго паходзіць? Божае слова паказвае, што ёсць тры рэчы, якія кранаюць сэрца Усявышняга і за якія Ён заўсёды ўзнагароджвае: міласціна, малітва і пост. Гэта бачныя дзеянні, якія абуджаюць адносіны з нябачным Богам. "Ты, калі посціш, намасці галаву сваю і абмый свой твар, каб паказаць, што посціш, не людзям, але Айцу твайму, які ў таемнасці. А твой Айцец, які бачыць патаемнае, аддасць табе" (Мц 6, 17–18).

Самы каштоўны падарунак, які мы можам ахвяраваць Айцу, – мы самі. Усё, чаго Ён хоча, – наша чыстае, любячае і ўдзячнае сэрца. "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць" (Мц 5, 8). "Прашу вас, браты, праз літасць Божую: аддайце целы вашыя на ахвяру жывую, святую, прыемную Богу як выраз вашага разумнага служэння. І не дастасоўвайцеся да гэтага веку, але перамяняйцеся праз абнаўленне розуму, каб вы пазналі, якая воля Божая, што добрае, прыемнае і дасканалае" (Рым 12, 1–2).

### ПОСТ АЧЫШЧАЕ СЭРЦА

Менавіта пост адчувальным чынам дае чалавеку магчымасць даследаваць сябе знутры, ачысціць сэрца ад усяго, што чужое Творцу і перашкаджае наблізіцца да Яго. Адмова ад прыемных рэчаў раскрывае духоўныя і фізічныя сферы, дзе ў нас ёсць праблемы і дзе губляем кантроль. Што стаіць на першым месцы ў Тваёй іерархіі каштоўнасцей? Каму ці чаму служыш і прысвячаеш большую частку свайго часу? Без чаго не ўяўляеш сваё жыццё? Дзе Твой самы каштоўны скарб? Ці сапраўды адказам з'яўляецца Бог?

Пост – гэта не толькі адмова ад ежы альбо шкодных звычак дзеля захавання рэлігійных правіл і наказаў. Пры такім падыходзе гэта было б чыстае фарысейства і не прынесла б духоўнага плёну. Перш за ўсё, пост – гэта акт любові і вернасці Богу, праз які мы сведчым, што шкадуем за ўсе свае правіны і добраахвотна хочам аддзяліцца і вызваліцца ад усяго, што перашкаджае нам наблізіцца да Нябеснага Айца, пачуць Яго голас і выканаць Яго волю.

### НА АДПАВЕДНАЙ ХВАЛІ

Каб праслухаць жаданую радыёпраграму, спачатку трэба наладзіць радыё на адпаведную хвалю. Святы Дух вяшчае на хвалі ахвярнай любові, таму, каб пачуць Божы голас і спазнаць Яго ўздзеянне, мы павінны наладзіць свой прыёмнік – наша сэрца – на адпаведную хвалю і пазбавіцца ад усяго, што любоўю не з'яўляецца. Святы Дух не можа напоўніць пасудзіны, якія да краёў запоўнены брудам: эгаізмам, гневам, крыўдамі, скаргамі, нянавісцю, пыхай, асуджэннем, крытыкай, плёткамі, страсцямі, залежнасцямі, зайздрасцю, хітрасцю, раздражненнем, гневам, прывязанасцю да матэрыяльных рэчаў гэтага свету і г. д.

Каб выкапаць калодзеж і дабрацца да крыніцы чыстай вады, трэба выдаліць шмат слаёў зямлі, прыкладаючы пры гэтым пэўныя намаганні. Падобна з чалавекам: каб ачысціць сэрца, трэба ўзяць на сябе клопат і ачысціць сваю душу ад бруду непрыемных эмоцый, прыхільнасцей і перажыванняў. Пост для гэтай мэты – незамянімы інструмент, які аслабляе жаданні цела і ўзмацняе прагненні духу.

### ПОСТ ЛАМАЕ МОЦ ЗЛА

Існуе прамая залежнасць паміж тым, што мы робім з нашым фізічным целам, і тым, як гэта паралельна ўплывае на нябачны духоўны свет. Спажыванне плода першым чалавекам, Адамам, стала актам непаслухмянасці Богу Айцу і аўтаматычна перадало духоўную ўладу, даручаную чалавеку, у рукі д'ябла. Але праз пост і адрачэнне Пан Езус перамог у барацьбе над ворагам чалавецтва і яго спакусамі, аднаўляючы поўную ўладу над сіламі цемры. Так і мы праз адрачэнне і пост ламаем уладу нячыстага духа і перамагаем яе ў сваім жыцці. "Гэты ж род злых духаў выходзіць толькі праз малітву і пост" (Мц 17, 21).

### ПОСТ ДАЕ БЛАСЛАЎЛЕННЕ

Ці адмова ад задавальненняў у час Вялікага посту адбірае ўяўную радасць жыцця? Зусім наадварот! Пост аднаўляе спакой і свабоду духу, страчаныя з-за негатыўнага досведу. Са шматлікіх гісторый, прадстаўленых у Бібліі, бачым, што калі чалавек фізічна здзяйсняў акт прыніжэння і паслухмянасці праз пост у знак любові да Бога, Ён вызваляў звышнатуральную духоўную сілу і дапамогу з Нябёсаў, што ў выніку заўсёды давала бласлаўленне.

Такім чынам, Творца забяспечыў абарону і апеку для ўсёй сям'і, дома і ўсёй маёмасці Ездры (параўн. Езд 8, 21–23), адхіліў праведнае пакаранне ад цара Ахава і не звёў на яго ліха (параўн. 3 Вал 21, 27–29), змілаваўся над юдэямі і выратаваў іх ад вынішчэння Амана, дзякуючы посту Эстэр; аднавіў разбураную сцяну Іерусаліма (параўн. Нм 9, 1–3), а таксама даў падказкі ў выбары дзеянняў і забяспечыў перамогу сынам Ізраіля ў барацьбе з іх ворагамі (параўн. Суд 20, 26).

Такім чынам, калі Ты змагаешся з ворагам: уласнымі слабасцямі, залежнасцямі, негатыўнымі эмацыянальнымі станамі; калі стаіш на раздарожжы і не ведаеш, які выбар зрабіць, патрабуючы святла Святога Духа; калі страціў пачуццё бяспекі і ахоплены татальным страхам аб будучыні Тваёй сям'і; калі патрабуеш духоўнага ці фізічнага аздараўлення – навярніся да Бога праз пост. Добры Айцец заўсёды чакае вяртання блуднага сына.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***7 сакавіка – III Нядзеля Вялікага посту***
***Ян 2, 13–25***

Набліжалася юдэйская Пасха, і Езус прыйшоў у Іерусалім. І знайшоў у святыні тых, хто прадаваў валоў, авечак і галубоў, і мянялы сядзелі там. І зрабіў бізун з вяровак і павыганяў усіх са святыні, а таксама авечак і валоў, грошы мянялаў парассыпаў, а сталы паперваварочваў. А прадаўцам галубоў сказаў: "Забярыце гэта адсюль і не рабіце дому Айца Майго домам гандлю". І прыгадалі вучні Ягоныя, што напісана: "Клопат аб доме Тваім з'ядае Мяне". На гэта юдэі сказалі Яму ў адказ: "Які знак пакажаш нам, што можаш гэтак рабіць?". Езус сказаў ім у адказ: "Зруйнуйце святыню гэтую, і Я за тры дні ўзнясу яе". І сказалі юдэі: "Гэтая святыня будавалася сорак шэсць гадоў, а Ты ўзнясеш яе за тры дні?". Казаў жа Ён пра святыню цела свайго. І калі Ён уваскрос з мёртвых, то вучні Ягоныя ўспомнілі, што Ён казаў гэта, і паверылі Пісанню і слову, якое казаў Езус. І калі Ён быў у Іерусаліме на свяце Пасхі, многія, убачыўшы ўчыненыя Ім цуды, паверылі ў імя Ягонае. Але сам Езус не давяраўся ім, бо сам ведаў усіх і не меў патрэбы, каб хто сведчыў пра чалавека, бо сам ведаў, што было ў чалавеку.

## Быць жывой святыняй Бога

*Стварэнне гандлёвай часткі на тэрыторыі святыні прывяло да таго, што там больш панавала атмасфера базару, чым святога месца. Замест атмасферы малітвы і засяроджанасці Пан Езус сустракае там мянялаў і гандляроў, якія парушаюць святасць, што належыць Божаму дому. Езус выступае тут як чалавек з крыві і плоці, раздзіраемы эмоцыямі і гневам, у абарону святога і справядлівага. Любоў да Айца і руплівасць у выкананні Яго закона не дазваляюць Хрысту застацца абыякавым да апаганення святыні. Ён ачышчае Божы дом, каб вярнуць яму належную павагу і парадак, выдаляючы дрэннае і несправядлівае.*

*Езус звяртае ўвагу на яшчэ адну святыню. Калі юдэі патрабуюць тлумачэння і пытаюць: "Які знак пакажаш нам, што можаш гэтак рабіць?", кажа пра адбудову за тры дні святыні свайго цела. Такім чынам, Ён звяртае ўвагу не толькі на святыню як будынак, але і на захаванне святасці жывой святыні, якой з'яўляецца сам чалавек.*

*Падчас Вялікага посту ў нас ёсць яшчэ адзін шанс навесці парадак ва ўласнай "святыні", выкарыстаць бізун самакрытыкі і выдаліць з сэрца тое, што крыўдзіць нашага Айца, перавернуць сталы пыхі, эгаізму і абыякавасці. Праз пост, малітву і міласціну давайце прыступім да барацьбы за прыгажосць нашай святыні, каб калісьці яна магла вечна трываць у Небе на славу Божую.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне пазбавіцца ад пыхі, эгаізму і абыякавасці. Заўсёды будзь на першым месцы ў маім жыцці!*

***14 сакавіка – IV Нядзеля Вялікага посту***
***Ян 3, 14–21***

Езус сказаў Нікадэму: "Як Майсей узвысіў змяю ў пустыні, так павінен быць узвышаны Сын Чалавечы, каб кожны, хто верыць у Яго, меў жыццё вечнае. Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не будзе асуджаны, а хто не верыць, той ужо асуджаны, таму што не паверыў у імя Адзінароднага Сына Божага. А суд у тым, што святло прыйшло на свет, але людзі больш палюбілі цемру, чым святло, бо ўчынкі іхнія былі дрэннымі. Таму кожны, хто чыніць зло, ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не адкрыліся яго дрэнныя ўчынкі. А хто паступае па праўдзе, ідзе да святла, каб яўнымі былі ўчынкі ягоныя, бо яны здзейсненыя ў Богу".

## Убачыць сапраўднае святло

*Пан Езус падчас начной размовы з вучоным Нікадэмам тлумачыць яму, як расчытваць знакі, пакінутыя Богам на шляху чалавека. І як шмат залежыць ад правільнага расчытання гэтых знакаў кожны дзень. Прыгадвае Нікадэму пра падзею падчас вандроўкі абранага народа праз пустыню, калі Бог дапусціў да ізраільцян бедства ядавітых змей, але разам з тым загадаў Майсею паставіць высокі шост і змясціць на ім выяву змяі. Каб уратавацца ад смерці, укушанаму трэба было з верай паглядзець на тую змяю. Гэта быў не столькі просты жэст звароту да змяі, колькі заўважэнне вачыма веры Божай сілы, якая выцякае з выканання такога лёгкага наказу.*

*Гэтым напамінам Езус падрыхтаваў Нікадэма да расчытання больш важнага знака – узвышэння Сына Чалавечага на дрэве крыжа. Гэты знак неабходны, каб кожны меў вечнае жыццё. Мы можам думаць, што Нікадэм зразумеў вучэнне Езуса, бо бачым яго на Галгофе, калі ўдзельнічае ў пахаванні Збаўцы. Крыж не напалохаў вучонага, бо зразумеў яго значэнне.*

*Езус дае нам святло, неабходнае, каб лепш бачыць навакольную рэчаіснасць, але ў той жа час з жалем дадае, што чалавек часта "ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не адкрыліся яго дрэнныя ўчынкі". Некаторыя людзі жадаюць лепш заставацца ў цемры, бо знаходзяцца на баку зла. Яны не хочуць святла, бо баяцца ўбачыць рэальную карціну ўласнага жыцця. Мы таксама часта трапляем у становішча ізраільцян у пустыні, заражаных атрутай зла. Перад намі ёсць знак аздараўлення, але нам не хапае добрай волі, каб паглядзець на яго.*

*Пане Езу Хрысце, дай мне мужнасць, каб заўсёды мог паглядзець на Тваё дрэва крыжа. Дазволь мне з чыстым сумленнем трываць побач з Табой!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды надыходзячых імянін жадаем моцнага здароўя, нястомнай апекі Маці Божай і св. Юзафа. Няхай Езус Хрыстус адорыць Вас неабходнымі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё.*

*Любячая мама з сям'ёй*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас моцным здароўем і бясконцым натхненнем, святло Хрыста няхай асвячае святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Селіванаўцаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАЗІМІРУ МУРАВУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у душпастырскай паслузе, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас усімі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай пяшчотай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жупранаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая і святы заступнік нястомна апекуюцца. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, сілы – бясконцымі, а сэрца надалей застаецца добрым і адкрытым на Бога і людзей. Жадаем добразычлівых людзей побач і ўсяго найлепшага.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою і нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая і святы заступнік атуляюць Вас сваім плашчом і адорваюць патрэбнымі ласкамі.*

*З удзячнасцю і малітвай сям'я Бондзюш з в. Монькаўцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ШМЕТУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў святарскай паслузе. Няхай усе непрыемнасці, якія сустракаюцца на Вашым шляху, ніколі не знеахвочваюць, а толькі ўзмацняюць і вядуць да святасці.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ КУДЭРКУ**

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе шчаслівым і благаслаўлёным, а праца на ніве Пана прыносіць багаты плён.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін складаем мноства сардэчных віншаванняў: моцнага здароўя на доўгія гады, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом любові, а святы заступнік спадарожнічае ў кожную хвіліну жыцця. Шчасці Божа!*

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ШМЕТУ**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб Вы заўсёды з вялікай радасцю служылі Богу і людзям.*

*Удзячныя члены малітоўных груп з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ АЛЯКСАНДР ШМЭТ!**

*З нагоды імянін сардэчна жадаем, каб Бог благаславіў Вас на кожны дзень служэння, адарыў сілай, цярплівасцю, вытрымкай і адвагай. Няхай ніколі не згасне Ваша руплівасць на ніве Пана, палымянасць у малітве, цеплыня і любоў, якімі дзеліцеся з намі. Няхай Маці Божая заўсёды Вас аберагае ад няшчасцяў ды трывог і трымае ў сваёй апецы. Шчыра дзякуем за кожную Вашу паслугу ў сакраментах, кожнае добрае слова і раду, за тое, што Вы вельмі дбайны гаспадар сваёй святыні.*

*З павагай парафіяне з Адамавічаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ КУДЭРКУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб усё жыццё было напоўнена святлом і любоўю. Няхай Збаўца вядзе Вас цудоўным святарскім шляхам, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка.*

*Удзячныя члены малітоўных груп з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін жадаем Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, усіх неабходных ласкаў ад Хрыста, моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, душэўнай раўнавагі, а таксама людской дабрыні і нязгаснага душэўнага цяпла ў святарскім служэнні.*

*Парафіяне з в. Нямнова*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, спакою на кожны дзень, людской зычлівасці, дароў Святога Духа, заўсёды добрых людзей навокал, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка.*

*Вернікі з в. Асташа*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, радасці на кожны дзень, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці.*

*Валерый, Яна і Вераніка*

**ПАВАЖАНЫМ АЙЦАМ КАЗІМІРУ МУРАЎСКАМУ І КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай. Няхай людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць радасцю і добразычлівасцю.*

*Сем'і Арлюкас і Юадэшка з в. Гарачкі*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Наведваючы парафію Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, ганаровы Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падзякаваў вернікам за малітвы падчас яго выгнання, якое працягвалася амаль 4 месяцы. Цэлебруючы св. Імшу на пачатку Вялікага посту, іерарх нагадаў, як важна чуваць і не паддавацца спакусам злога духа. "А тым больш небяспечна ўступаць з ім у кампраміс", – дадаў арцыбіскуп.

Іерарх выказаў занепакоенасць грамадска-палітычным крызісам у краіне, нагадваючы пра тое, што "яна хворая і патрабуе лячэння, пакуль мы як нацыя не загінулі канчаткова. Зло трэба перамагаць дабром, а грэх – Божай ласкай. Гэта нялёгкая справа, але з Божай дапамогай магчымая".




**рэлігійны часопіс**

У парафіі св. Падрэ Піо ў Лёзне (Віцебская дыяцэзія) няма арганіста. Але затое ёсць свой музыкант-духавік. Спадар Ігар Лакотка кожную нядзелю прыязджае за 15 км на св. Імшу ў Лёзненскую парафію і акампанементам на кларнеце дапамагае парафіянам вывучаць новыя і ўдасканальваць добра вядомыя спевы.

Спадар Ігар прызнаецца, што касцёльная музыка – нешта зусім новае для яго. Спевы адрозніваюцца ад свецкіх твораў не толькі самім зместам, але і кампазіцыяй. Зусім іншая мелодыка. Ён з радасцю пагадзіўся іграць на св. Імшы, бо ўбачыў, што парафіянам не стае дакладнасці ў выкананні спеваў. Ды і літургія з музычным суправаджэннем выглядае куды больш урачыстай.




**беларуская рэдакцыя**

У свеце расце ўвага да бл. Карла Акуціса – заўчасна памерлага ад лейкеміі 15-гадовага праграміста і інтэрнэт-евангелізатара, які ахвяраваў свае пакуты за Хрыста і Касцёл.

На актуальнасць сведчання бласлаўлёнага "энтузіяста інтэрнэту" звярнуў увагу прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі кардынал Марчэла Сэмерара. Нагодай стала прэзэнтацыя новай біяграфіі Карла Акуціса, якая выйшла ў Ватыканскім выдавецтве.

Хлопец быў праграмістам-самавукам, які захапляўся відэагульнямі, але гэта не перашкаджала яму быць набожным чалавекам, які любіць Бога і дапамагае людзям. Калі хлопцу было 11 гадоў, ён стварыў сайт-каталог, у якім сабраў інфармацыю пра эўхарыстычныя цуды.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі з'явіліся новыя акаліты і кандыдат да святарства. Акалітамі сталі клерыкі 5 курса Яўген Абрамаў і Віталь Гурэц, а таксама 4-курснікі Арцём Кір'янаў, Павел Пагасай і Аляксандр Шыманскі. Кандыдатам да святарства быў прызнаны навучэнец 5 курса Андрэй Юхнік.

Прыняццю паслуг папярэднічалі трохдзённыя велікапосныя рэкалекцыі, якія завяршыліся напярэдадні семінарыйнай урачыстасці. Гэтыя дні паспрыялі падрыхтоўцы клерыкаў да чарговага адказнага кроку на шляху да святарства.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 836; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.